www.nv-online.info

№ 18 (4270)

2 сакавіка 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадо...*

**Якуб КОЛАС**

*«Народная Воля»* в Facebook www.facebook.com/nv.online.info

в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

З НАГОДЫ

## Тварцом Незалежнасці можа быць толькі сам народ

*У сеціве бушуюць спрэчкі наконт таго, як у краіне павінна адзначацца 100-годдзе БНР. Выходзячы з кантэксту гэтай нагоды, давайце ўзгадаем выказванні высокапастаўленых афіцыйных асоб. Як нам здаецца, яны праліваюць свет на эвалюцыю іх светапогляду.*

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА, прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**

«Ідэя самавызначэння Беларусі, якая ішла знізу, ад ініцыятывы народных мас, выявілася ў скліканні Першага Усебеларускага з'езда *(які прывёў да абвяшчэння БНР)*. Гэты народны сход прадэманстраваў найважнейшыя каштоўнасці, значныя для нас да гэтага дня: свая дзяржава, яе сацыяльны характар і той факт, што толькі народ, яго воля, калектыўны розум і лідары могуць стаць сапраўднай крыніцай незалежнасці».

***

«Гэтыя працэсы *(наступствы Першай сусветнай вайны і расійская рэвалюцыя 1917 года)* закранулі і нас. Пытанне беларускай дзяржаўнасці трывала ўвайшло ў парадак дня еўрапейскай геапалітыкі. Былі мужныя, часам утапічныя спробы самавызначэння. Некаторыя дзеячы, натхнёныя высокімі ідэямі, так і не зразумелі таго, што незалежнасць і свабоду войскі кайзераўскай Нямеччыны не прынясуць ніколі. Яе тварцом можа быць толькі сам народ, яго воля, калектыўны розум і лідары».

**Наталля Качанава, кіраўніца Адміністрацыі прэзідэнта**

«Такія ідэі *(адсвяткаваць 100-годдзе БНР на дзяржаўным узроўні)* гучаць, мы таксама падключаемся да гэтых пытанняў. Але ўсё павінна быць цывілізавана: калі людзей заклікаюць выходзіць на нейкія мітынгі, гэта няправільна. А калі гэтае святкаванне неабходна грамадству, то, значыць, будзем разам супольнымі дзеяннямі і планамі рэалізоўваць усё гэта. Як вызначацца людзі, якім гэта неабходна, так і будзе».




**Аляксандр Карлюкевіч, міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

«Безумоўна, гэта *(абвяшчэнне незалежнасці БНР)* вельмі важны крок у гісторыі Беларусі. Многія ўдзельнікі тых падзей 1918 года засталіся ў гісторыі. Яркая постаць Браніслава Тарашкевіча, яго ўнікальны і драматычны лёс сведчаць, якая няпростая рэакцыя была на 1918 год, для беларуса і яго нацыянальнага самавызначэння».

**Ігар Шуневіч, міністр унутраных спраў Рэспублікі Беларусь**

«І ўлады, і арганізатары гэтага мерапрыемства *(святкавання 100-годдзя БНР)* павінны знайсці агульную мову і зрабіць так, каб гэта было прымальна для абодвух бакоў. Чым больш мірна, спакойна, цывілізавана і, зразумела, з выкананнем усіх гістарычных патрабаванняў, тым для міліцыі будзе лепш. Таму я вітаю жаданне ўлад і арганізатараў знайсці залатую сярэдзіну і правесці ўсё цывілізавана: без абвастрэння, узаемных папрокаў. Усё ж гэта гісторыя, і да яе трэба ставіцца з павагай».

ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ

## Сустрэцца з кнігай...

*У Мінску праходзіць юбілейная кніжная выстава-кірмаш, у якой бяруць удзел прадстаўнікі 32 краін.*



Асноўная тэма сёлетняй выставы: «Беларусь – культурная пляцоўка Еўропы». Ганаровым госцем у гэтым годзе запрошана Сербія, а цэнтральным экспанентам – Казахстан. На кірмашы традыцыйна прадстаўлены выдавецтвы з Германіі, ЗША, Расіі, КНР....

Дарэчы, значнай падзеяй стала прэзентацыя выдання **«Энцыклапедыя Кітая»** на беларускай мове. Акрамя таго, стала вядома, што адно з найбуйнейшых кітайскіх выдавецтваў, якое за год выдае столькі кніг, колькі ў нас ва ўсёй краіне выходзіць за паўгода. Гэтае выдавецтва выпускае кнігі на 62 мовах і гатова выкарыстоўваць Беларусь як пляцоўку для прасоўвання сваіх выданняў.

На нацыянальным стэндзе Беларусі арганізаваны шматлікія сустрэчы з аўтарамі, выдаўцамі, мастакамі, прэзентацыі новых кніг, круглыя сталы, аўтограф-сесіі. Чытачоў чакаюць аўтограф-сесіі з многімі пісьменнікамі.

На працягу ўсёй выставы будзе працаваць экспазіцыя «Друкаваны двор XVI стагоддзя».

Падчас адкрыцця форуму міністр інфармацыі Беларусі **Аляксандр Карлюкевіч** пажартаваў, што выстава-кірмаш – гэта такі своеасаблівы падарунак жанчынам да 8 Сакавіка.

На выставе хапае літаратуры на любы густ, і цэны на кнігі, дарэчы, досыць ліберальныя.

Працягнецца выстава да 4 сакавіка (уключна).

**P.S.** *Працяг тэмы чытайце на 2-й стар.*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

## Позиция непоротого поколения

Кажется, 25 марта бить не будут. Ну, если только власть опять спятила и хочет-таки санкций. Но на это не похоже. Она сама выпустила в информационное пространство слух о возможном формате, который ее удовлетворил бы, так что нашим партиям ничего не оставалось, кроме как согласиться с этим форматом и отправиться на переговоры по его легитимации. Шествия не будет – будет концерт.

Дискуссия лидеров белорусских оппозиционных структур о том, что делать в день 100-летнего юбилея БНР, транслировалась в прямом интернет-эфире, поэтому пересказывать ее я не буду. Это было душераздирающее зрелище, еще раз доказывающее: хочешь испортить дело и помешать договориться – поставь рядом видеокамеру, чтобы наши партайгеноссе могли позировать перед ней. Андрей Дынько назвал их «павлинами», а я позволю себе сравнить с показательным выступлением любителей бодибилдинга, нажравшихся протеиновых добавок. Мышцы вроде бы и есть, но что в них от спорта, а что от химии – они уже и сами не разбирают. Им не до этого – нужно принять позу.

Кто поз не принимал – это молодежь. Дмитрий Дашкевич сразу заявил, что формат концерта – а вернее, праздника по случаю столетия БНР – его полностью удовлетворяет. Практически о том же заговорили и другие люди дела, привыкшие не отработку грантов приятными для доноров позами демонстрировать, а реализовывать настоящие проекты. Таким проектом, например, была грандиозная акция по случаю восьмидесятилетия кровавых событий в Куропатах, душой которой был Сергей Будкин. Вот сейчас совершенно очевидно, что есть еще один человек, не примазывающийся к дате, а искренне желающий ее отметить, – Павел Белоус. Интервью и комментарии его совершенно искренни и потому убедительны. А главное – от бития дубинками он ничего не получит. И на президентский пост не претендует.

При этом у Дашкевича с Белоусом неожиданно оказался мощный союзник. Может быть, единственный, чей голос стоило бы послушать. Зенон Позьняк. Он ведь был первым, кто сказал о необходимости праздника – с песнями, цветами, флагами. И его мнение неожиданно совпало с мнением Дашкевича и Белоуса.

И искренность этого совпадения у меня не вызывает сомнений. Я понимаю, чего они хотят и чего они не хотят. Они хотят праздника реальной белорусской независимости и государственности – пусть празднуемого не в один день с властями, но раз в сто лет стоит. И не хотят побоев. Позьняк не хочет, потому что понимает главное: срыв праздничных мероприятий будет в данном случае равнозначен сворачиванию на некоторое время любых форм национального возрождения в стране – и никто не будет знать, как долго это продлится. А молодежь просто не хочет, чтобы ее били.

Нет, Дашкевич готов и к дубинкам – он не раз это демонстрировал. Но он вовсе не согласен превращаться в провокатора и вести на дубинки спецназа тех, кто хочет отпраздновать 100-летие БНР. А Белоус не хочет этого же хотя бы потому, что он не является политическим мазохистом. Он вырос без розог и не понимает, какой кайф может быть в том, что тебя порют. Вот такой он чудак-человек.

Судя по откликам в социальных сетях, его позицию поддерживают очень многие. Те, кто привык, что порют других. Которых почему-то называют политической оппозицией.

Я не говорю, что это хорошо, когда одни работают в компьютерных компаниях, а других бьют дубинками, хотя, собственно говоря, они для создания компьютерного рая сделали едва ли не столько же, сколько Валерий Цепкало. Но в данном случае, если мы хотим, чтобы идеи отцов-основателей БНР овладели сколько-нибудь широкими массами, не нужно искать приключения на свои задницы. Нужно просто прислушаться к голосу непоротого поколения. Понять его позицию.

Тем более – повторюсь! – что она совпала с позицией Зенона Станиславовича.

В общем, только Зенон!

Но главное – если будет действительно праздник, очень прошу ведущих: пусть единственным политиком, которому дадут слово на нем, будет Ивонка Сурвилла. Пусть по скайпу. У нее есть право быть услышанной в этот день. А остальных давайте сами на время торжества попридержим. На всякий случай. Чтобы не спровоцировали всеобщей порки.

ПАЛІТКУХНЯ

## Канапацкая – замест Лябедзькі?

*Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Ганна Канапацкая паведаміла, што на бліжэйшым партыйным з'ездзе будзе вылучацца на пасаду старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі.*

Свой намер яна абгрунтавала «глыбокім сістэмным крызісам у партыі, якія прывёў да іншых негатыўных наступстваў у АГП за некалькі апошніх гадоў, патрабуе тэрміновага вырашэння, што прывядзе, безумоўна, у тым ліку і да змены кіраўніцтва арганізацыі на бліжэйшым з'ездзе".

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

**Букет кветак і падпіска на «Народную Волю» – лепшы падарунак на 8 Сакавіка!**

Многія мужчыны разгублены: які падарунак зрабіць маці, сястры, каляжанцы па рабоце, суседцы? Падказваем: букет кветак і падпіска на "Народную Волю" – лепшы Ваш падарунак на 8 Сакавіка.

**Рэдакцыя.**

ВІНШУЕМ!

## 6:0 на карысць Лявона Баршчэўскага

*Бацька трох дачок.*

*Перакладчык, які ведае амаль 30 замежных моў.*

*Настаўнік і былы палітык.*

*Аматар спеваў, які прафесійна займаўся вакалам, але ніколі не марыў трапіць на "Еўрабачанне".*

*4 сакавіка вядомы беларускі грамадскі дзеяч Лявон Баршчэўскі святкуе сваё 60-годдзе.*



### З марай пра мора

**– Лявон Пятровіч, ведаю, што будзеце ладзіць юбілейную імпрэзу, на якую ўжо запрошана шмат вядомых людзей. 60 гадоў – для вас гэта падзея альбо нейкая мяжа?**

– Ад юбілеяў нікуды не дзенешся, хоць і хацелася б, каб гады не павялічваліся, а, наадварот, змяншаліся. Ці хаця б спыніліся. Ніякіх цёплых пачуццяў у мяне да свайго ўзросту няма. Затое ёсць многа людзей, якім я ўдзячны ў першую чаргу. І каб яны не пакрыўдзіліся, што я на іх забыўся, ладжу юбілей.

З гадамі не пазмагаешся… Мой брат кажа, што ў гэтым узросце робішся тэнісістам. Бо лік 6:0 у тэнісе лічыцца харошым, гэта значыць, што ты выйграў сваю партыю.

**– Але ж вы яшчэ нават і не пенсіянер! Як казаў адзін вядомы герой, мужчына ў самым росквіце сіл…**

– Ну так, можна ганарыцца, што да пенсіі яшчэ не блізка, узроставую планку нядаўна паднялі.

Дарэчы, на мой год нараджэння прыйшоўся самы вялікі ўсплёск пасляваеннай нараджальнасці. Відаць, невыпадкова прыдумалі, каб тых, хто нарадзіўся ў 1958 годзе, пазней на пенсію адправіць. Але, з другога боку, нашы бацькі перажылі сталінскі страх, пачалася паслясталінская эпоха. І сярод маіх аднагодак вельмі многа знакамітых людзей, якія заявілі пра сябе ў розных сферах, прычым па ўсім свеце.

**– На сваё 50-годдзе вы зрабілі падарунак грамадскасці, выдаўшы ўнікальны 28-моўны беларуска-лацінска-еўрапейскі слоўнік. Чым зараз парадуеце?**

– Якраз на кніжную выставу адвезлі вершаваную кнігу "Вялікая драма Юліюша Славацкага". Юліюш Славацкі – польскі класік тэатра, я рабіў гэтую кнігу гады чатыры таму, і вось нарэшце дайшло да выдання. Днямі павінен выйсці зборнік грэчаскіх камедый і трагедый, упершыню перакладзеных на беларускую мову. А яшчэ адзін праект, над якім я працую, на жаль, да юбілею не паспее – гэта "Гісторыя Расіі", якую мы пішам разам з Паўлам Церашковічам, Алегам Трусавым і Аляксеем Хадыкам. Гэта не імперская і не бальшавіцкая, а самая, на мой погляд, аб'ектыўная гісторыя Расіі ад самага пачатку і да сённяшніх дзён. Спадзяюся, што да канца гэтага года кніга пабачыць свет. Гэта будзе першае такое выданне на беларускай мове, але я думаю, што яе перакладуць на розныя мовы. Узгадваю некаторых расійскіх палітыкаў, якіх я ведаў асабіста і якія сёння, на жаль, ужо на тым свеце: Ягор Гайдар, Ганна Паліткоўская, Барыс Нямцоў, Галіна Старавойтава… З майго боку гэта будзе і пэўная даніна памяці гэтым людзям і развага – куды ідзе Расія, што яе чакае?

### Геніяльная галава

**– Лявон Пятровіч, а якія падарункі хацелася б атрымаць на дзень народзінаў?**

– Падарункі для мяне ніколі не гралі істотнай ролі. Мне неяк сорамна іх прымаць.Ну і, шчыра кажучы, нават і не ведаю, што мне трэба. Нейкія матэрыяльныя рэчы мяне даўно не цікавяць, з духоўных – я і сам магу набыць тое, што мне трэба. Таму самы лепшы для мяне падарунак – калі сябры добрым словам згадаюць. А сяброў у мяне многа.

**– А ад жонкі якога сюрпрызу чакаеце?**

– Я забараніў ёй траціць грошы мне на падарункі! Можа быць, нам удасца разам некуды з'ездзіць, але гэта не зараз, а пазней будзе, летам.

**– На мора?**

– Так. Мы апошнім часам рэдка выязджаем. Некалькі гадоў таму былі ў Грэцыі, і да акупацыі Крыма паспелі там пабываць. У нас такі адпачынак з далёкімі падарожжамі здараецца раз на тры-чатыры гады. Можа, і сёлета атрымаецца, але пакуль што планы цьмяныя.

*(Заканчэнне на 2-й стар.*

УВАГА!

## «Народная Воля» шукае дырэктара па развіцці

**Функцыянальныя абавязкі:**

• аналітыка, арганізацыя і кантроль за рэалізацыяй газеты праз рознічны гандаль;
• арганізацыя і правядзенне падпісных кампаній;
• работа з рэкламадаўцамі;
• арганізацыя і правядзенне конкурсаў, віктарын, выстаў, чытацкіх канферэнцый, сустрэч, скіраваных на павышэнне папулярнасці "Народнай Волі", пашырэнне яе аўдыторыі;
• прыцягненне інвестыцый для рэалізацыі сумесных праектаў.

Заробак – **дастойны**.

Забяспечваецца службовым аўтатранспартам. Наяўнасць вадзіцельскага пасведчання абавязковая.

Рэзюмэ дасылаць: nvonlineinfo@gmail.com

Тэлефон для справак: +37517-328-68-71.

Сумоўе – у зручны для вас час.

**Рэдакцыя.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
2 САКАВІКА 2018 г.

СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ

# Книжное путешествие по Германии

*Корреспондент «Народной Воли» посетил на Международной книжной выставке-ярмарке «немецкий уголок».*

Уже в течение 22 лет Германия представлена на книжных выставках, которые проходят в Минске. И этот год не стал исключением. На собственных стендах посольство Германии и Институт имени Гёте выставили книги, которые отправляют посетителей в самое настоящее книжное путешествие.

*«Представленные здесь книги не продаются, а будут по традиции переданы в дар, – говорит Посол Германии в Беларуси Петер ДЕТТМАР. – Таким образом мы оказываем поддержку белорусским школам и другим учреждениям, которые уже много лет ведут активную деятельность по распространению немецкого языка и культуры».*

«Немецкий уголок» всегда пользовался спросом у посетителей выставки. Кто-то знакомится с новинками немецкого книжного рынка, кто-то записывается на курсы немецкого языка. Очень много на стенде красочной детской литературы.

*«У нас представлены три тематические коллекции,* – показывает книги и рассказывает руководитель информационно-библиотечного отдела Института имени Гёте **Александр НАЗАРЧУК**. *– Есть подборка немецкоязычной беллетристики «Книги, о которых говорят», книги, номинированные на Немецкую книжную премию 2017 года, коллекция «Самые красивые немецкие книги прошлого года». Последние, кстати, были отобраны немецким Фондом искусства книги. Проводился специальный конкурс, и среди 3000 изданий выбрали 25 лучших в плане дизайна, полиграфии, инновационных подходов».*

Собеседник показывает интерактивную книгу для школьников. В Германии она стоит около 50 евро, но издание очень необычное.

*«Это новое слово в книгоиздании, когда есть не только печатная книга, но и дополнительное мультимедийное устройство,* – объясняет Александр. – *Книга начинает говорить, когда вы прикасаетесь к картинке или к слову специальным карандашом. Любой школьник сначала читает текст, а затем слушает книгу. Вообще все, представленное здесь, – настоящие произведения искусства. Хотя удивляться не стоит. Немецкие книгоиздатели занимают высокое место в мире по объему книжного рынка. В Германии каждый год появляется около 100 тысяч книжных новинок!»*




## Петер ДЕТТМАР: «У меня в домашней библиотеке – 5–6 тысяч книг»

*Посол Германии в Беларуси рассказал «Народной Воле» о своих книжных предпочтениях.*

**– Господин Посол, читает ли сейчас молодежь в Германии книги или в приоритете интернет?**

– Одно время немецкая книжная промышленность и на самом деле опасалась, что может потерять свою часть на рынке, но на сегодняшний день можно говорить точно, что полностью интернет книгу не заменит. Все-таки многие любят читать именно в печатном варианте, а не в электронном. Более того, в последнее время у нас даже растет спрос на книги. И это не может не радовать!

**– Сами Вы часто бываете в книжных магазинах?**

– Регулярно. И каждый раз, когда захожу туда, вижу, как много людей покупают книги.

**– Какую литературу Вы читаете?**

– Сейчас появилось много поводов прочесть книги на определенные темы. Столетие революции 1917 года, гражданская война в России… Об этих событиях на немецком рынке появились новые издания.

**– Может, знаете каких-то белорусских авторов?**

– Я знаком с творчеством Янки Купалы, Якуба Коласа и Василя Быкова. К сожалению, белорусские авторы мало переводятся на немецкий язык и, соответственно, мало представлены в Германии. Например, произведения Быкова на немецком языке – это антиквариат.

**– Господин Деттмар, а у Вас дома большая библиотека?**

– Честно говоря, не пересчитывал, но 5–6 тысяч книг есть. Часть из них я привез в Минск.




На стенде и впрямь самые свежие новинки: известный роман лауреата Немецкой книжной премии Deutscher Buchpreis Роберта Менассе «Столица». Книга о Берлинской стене – более чем на 1000 страницах представлены уникальные фотографии. Увлекательное издание о веганстве.

*«Мы участвуем в таких выставках каждый год, потому что наша основная задача – популяризация немецкой культуры,* – отмечает Александр Назарчук. – *У нас на стенде есть консультант по курсам изучения немецкого языка. В институте есть такие курсы, есть своя библиотека, и там все эти книги можно найти. За пользование нужно платить чисто символически, а электронной библиотекой можно пользоваться и вовсе бесплатно. Зарегистририруйтесь на сайте и скачивайте книги. Их у нас более 15 тысяч в электронном формате. Кстати, необходимо отметить, что каждый год на выставке очень много посетителей, которые интересуются Германией. И это не удивительно. Во многих белорусских школах немецкий язык является первым иностранным языком».*

Ярмарка будет проходить в столичном Национальном выставочном центре (проспект Победителей, 14) по 4 марта. И, как говорят, лучше один раз увидеть, чем сто раз услышать…

**Алесь СИВЫЙ.**

ВІНШУЕМ!

# 6:0 на карысць Лявона Баршчэўскага

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

**– Любіце з жонкай удвух адпачываць ці дачок таксама запрашаеце?**

– Можа, сёлета разам з малодшай паедзем. Бо мае старэйшыя па такім графіку працуюць, што цяжка з імі бывае ўзгадніць. Яны, відаць, нават і на юбілеі не здолеюць быць, бо працуюць.

**– А дзе, калі не сакрэт?**

– Адна ў аэрапорце Мінск, на замежным тэрмінале, у яе добрыя англійская і кітайская мовы. А другая ў фірме, што аказвае псіхалагічную дапамогу па тэлефоне, – у іх пазменная праца.

**– Малодшая, калі не памыляюся, яшчэ вучыцца?**

– Так, у Любліне вывучае арганізацыю турызму. І якраз на мой юбілей у яе выпадаюць залікі, таму, бачыце, мне нават дачок сабраць цяжка! Хіба толькі ўнучка прыйдзе – ёй у жніўні 8 гадоў будзе.

**– Я так разумею, што ў спадчыну ўсе дочкі атрымалі ад вас гены, адказныя за валоданне мовамі?**

– Але ж усе яны працуюць не па спецыяльнасці…

**– Вы самі, калі не памыляюся, 18 моў ведаеце?**

– Ой, лепш не пішыце пра гэта! Я заўсёды з гэтага кплю, бо добрая мова тая, якой карыстаешся штодня. Мне рэальна даводзіцца карыстацца беларускай, польскай, рускай, англійскай, нямецкай. Астатнімі мовамі – спарадычна, таму мне трэба ўспамінаць іх. А чытаю я недзе на трох дзясятках моў. Але гэта толькі чытанне, а для таго, каб гаварыць, патрэбна практыка. Калі ты 20 гадоў ужывую не сутыкаўся, напрыклад, з дацкай мовай, то і лёгка адразу на ёй не загаворыш. Прасцей на англійскую перайсці.

**– Але нават і чытаць на трыццаці розных мовах – гэта ж якую галаву геніяльную трэба мець!**

– На жаль, у нас бываюць акадэмікі, якія ніводнай мовы без акцэнту не ведаюць. А я прафесійны філолаг, да моў вельмі сур’ёзна ставіўся. Я слухаў радыё на розных мовах яшчэ ў савецкія часы, чытаў газеты на розных мовах. У мяне патрэба была! Мовы – гэта мая прафесія, маё жыццё…

### Асуджаць не маю права

**– Вас называюць чалавекам, які не саромеецца прызнаваць свае памылкі…**

– Бацькі мяне так вучылі. У мяне была такая сям’я інтэрнацыянальная. Бацька – тыповы беларус: памяркоўны, асцярожны. Вельмі шмат чаго ведаў, але казаў: больш нікому не кажы, бо пасадзяць. Ён яшчэ ў 1950-я гады быў знаёмы са старшынёй Савета мінстраў Беларусі Кляшчовым – яны амаль сябры былі. Ці той жа Мікалай Дземянцей, якому мне потым давялося пэўным чынам супрацьстаяць як палітыку, быў у бацькі ў падпарадкаванні, калі тата ўзначальваў “Аўтатрактарзбыт” у Полацку. Бацька з наменклатурай кантактаваў, але сам у яе не трапіў. У яго не было вышэйшай адукацыі – толькі сярэдняя спецыяльная. І ён проста выпаў з абоймы.

А маці па нацыянальнасці руская. У яе па жыцці былі толькі чорна-белыя колеры. Але ў гэтым таксама была нейкая карысць. Яна заўсёды вучыла нас рабіць правільныя расстаноўкі. Памятаю, маці казала: люблю беларусаў, толькі яны вельмі зайздрослівыя. І мяне маці вучыла: ніколі не зайздросць! І я ў жыцці, здаецца, ніколі нікому не зайздросціў.

Увогуле, мяне бацькі даволі жорстка выхоўвалі.

**– А вы сваіх дачок?**

– Нас у сям’і было трое братоў, а ў мяне тры дачкі. Я з імі часам, можа, і занадта мяккі быў. Але, дзякуй Богу, яны выраслі і выхаваныя, і культурныя. Ганаруся імі! У іх, канешне, свае праблемы ёсць у асабістым жыцці, але я ў гэта не ўмешваюся.

**– У адным са сваіх даўніх інтэрв’ю вы сказалі: *“Калі прааналізаваць апошнія дзесяцігоддзі майго жыцця, то там ланцуг памылак, а не поспехаў”*. А як зараз?**

– Канешне, ужо нічога не памяняеш… Але многія рэчы я сёння інакш рабіў бы.

**– Якія, напрыклад?**

– Можа, іншую адукацыю атрымаў бы. Стаў бы хімікам. Я выйграваў у школе алімпіяды па хіміі, але так атрымалася, што пайшоў на філалогію. Аднак не шкадую. Я заўсёды вельмі адказна ставіўся да сваёй прафесіі.

Увогуле, лічу так: чым бы чалавек ні займаўся, ён павінен ставіцца да сваёй справы як сапраўдны прафесіянал.

Я, напрыклад, зусім не хацеў ісці ў дэпутаты ў 1990 годзе, прыйшлося проста “затыкаць” акругу, якая раптам вызвалілася. Розныя рэчы складваліся не так, як мне хацелася б. І ўвогуле палітыка заняла ў мяне многа часу, хоць душа ў мяне да яе і не ляжала. Таму я лічу, што гэта адабраныя гады. За 1990–1995 гады я зрабіў мізэр у параўнанні з тым, што зрабіў да палітычнага перыяду свайго жыцця і пасля яго!

**– Калі ўжо загаварылі пра палітыку, то я нават здзівілася, калі вы аднойчы сказалі: маўляў, сёння адгаварыў бы Зянона Пазьняка ад эміграцыі. Цікава, а ў апошнія гады не размаўлялі з ім пра вяртанне на радзіму?**

– Я даволі часта з ім сустракаўся, і ў апошня гады ў тым ліку. Але гэтае балючае пытанне ніколі перад ім не ставіў. Проста абмалёўваў яму сітуацыю збоку ў тым сэнсе, што тут засталася вялікая колькасць людзей, ну а калі ўжо і Пазьняк з’ехаў, то ім сам Бог загадвае ці то з’ехаць, ці то схавацца некуды. Палітык павінен даваць прыклад.

Але і асуджаць Пазьняка я не магу! Бо ў 1996 годзе была рэальная пагроза ягонаму жыццю. Можа, гэта была правакацыйная інфармацыя, але нам нават са Службы аховы прэзідэнта паступалі сігналы, што лепш Пазьняку схавацца. Ну і як не верыць гэтаму? Заб’юць чалавека – ты будзеш вінаваты. Тут шмат адказнасці… Пазней, магчыма, ён мог бы вярнуцца, але…

Я не маю права яго асуджаць.

**– Ці бачыце вы сёння сябе дэпутатам Палаты прадстаўнікоў?**

– Ні ў якім разе! Нават калі б былі дэмакратычныя выбары. Я гэты этап пражыў і вяртацца да яго не хачу. Дэпутацкая праца мяне сёння не цікавіць. Трэба жыць гэтай прафесіяй, вывучаць увесь кантэкст, у тым ліку і сусветны, а ў мяне на гэта часу няма. Выканаўчая работа – магчыма. Але не ў нашай сённяшняй сітуацыі.

**– Лявон Пятровіч, да юбілейнай імпрэзы канцэртную праграму падрыхтавалі ўжо? Спяваць жа будзеце самі?**

– Напэўна, прыйдзецца. Спевы – маё хобі. І нават не зусім хобі, бо я займаўся вакалам з прафесійным педагогам Валянцінай Пятроўнай Палікарповіч. Я ёй глыбока ўдзячны, што яна мне голас ставіла, але гэта было вельмі даўно, ужо сорак гадоў, мусіць, з тых часоў мінула…

**– Нешта падобнае да “Еўрабачання” ў тыя часы не было жадання паехаць?**

– Памятаю, нават у нейкіх конкурсах студэнтаў-вакалістаў мы ўдзельнічалі, нейкія месцы займалі. Але гэта даўняя гісторыя… Я больш аматар, чым прафесіянал. Музычнай школы я не скончыў, нотнай грамаце вучыўся на курсах.



### З АСАБІСТАЙ СПРАВЫ

*Лявон Баршчэўскі нарадзіўся 4 сакавіка 1958 года ў Полацку. У 1975 годзе паступіў у Мінскі педагагічны інстытут замежных моў. Працаваў выкладчыкам нямецкай і англійскай моў у полацкай школе №10, Наваполацкім політэхнічным інстытуце (цяпер – Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт).*

*У 1987 годзе скончыў аспірантуру пры Мінскім педінстытуце замежных моў, атрымаў ступень кандыдата філалагічных навук.*

*У 1985 годзе Лявон Баршчэўскі разам з Сяргеем Шупам стварыў у Мінску клуб маладых перакладчыкаў “Бабілён”.*

*Лявон Баршчэўскі – заснавальнік і намеснік дырэктара Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа, які быў афіцыйна закрыты ўладамі ў 2003 годзе.*

*У 1990–1995 гг. Баршчэўскі быў дэпутатам Вярхоўнага Савета 12-га склікання, уваходзіў у склад парламенцкай Апазіцыі БНФ. Быў намеснікам старшыні камісіі па пытаннях адукацыі, культуры і захавання гістарычнай спадчыны, а таксама сябрам камісіі па міжнародных справах і знешнеэканамічнай дзейнасці.*

*З 1995 г. – намеснік старшыні Беларускага Народнага Фронту “Адраджэнне”, у 1996–1999 гг. выконваў абавязкі старшыні БНФ пасля эміграцыі Зянона Пазьняка.*

*На X з’ездзе Партыі БНФ у снежні 2007 года Лявон Баршчэўскі абраны старшынёй Партыі. У верасні 2009 года сышоў з пасады старшыні, на якой яго замяніў Аляксей Янукевіч. У 2011 годзе разам з групай паплечнікаў выйшаў з Партыі БНФ.*

### Каханне – справа далікатная…

**– Лявон Пятровіч, вы, калі не памыляюся, толькі адзін раз шлюб бралі?**

– Не, у мяне другая жонка. Мы разам с 1995 года.

**– А з першай падтрымліваеце адносіны?**

– Канешне, у нас жа дзве агульныя дачкі.

**– А чаму, калі не сакрэт, шлюб распаўся?**

– Палітыка перашкодзіла. Мяне пастаянна не было дома. Мы ж тады сапраўды працавалі амаль круглыя суткі, хаця мала хто верыць сёння. Ездзілі па рэгіёнах, сустракаліся з людзьмі. Вялікая нагрузка была. Ну і сітуацыя склалася так у сям’і… З сённяшняга пункту гледжання, канешне, гэта не былі невырашальныя пытанні. Але ў 1990-я гады ўвогуле такая атмасфера была… Было адчуванне, што вось зараз крок зробім – і сітуацыя зменіцца. І дзеля гэтага, здавалася, можна ахвяраваць і тым, і гэтым…

**– Ахвяраваць асабістым жыццём дзеля палітыкі альбо працы – ці варта, на ваш погляд?**

– Мяне не цягнула ў палітыку, але так абставіны скלаліся. У выхадныя дні працавалі, адпачынку не было. Але, можа, і да лепшага, што ўсё так склалася.

**– У другім шлюбе вы ўжо, відаць, такіх памылак не паўтаралі, дома часцей бывалі…**

– Прынамсі, мы адзін аднаму давяралі заўсёды, ніколі не рабілі нешта назло… У асабістым жыцці не бывае правых з аднаго ці з другога боку.

Але пра прыватнае шмат не пішыце – не вельмі люблю пра гэта распавядаць…

**– У нас увогуле мала хто з публічных асоб любіць дзяліцца асабістым…**

– Мы гаварылі на розныя тэмы з вамі, але я шчыра кажу – да гэтай пары не ведаю, правільна рабіў некаторыя рэчы ці не…

**– Вы зараз пра палітыку ці пра прыватнае?**

– Увогуле пра жыццё!

Можа, і па-іншаму ўсё магло скласціся. Але заўсёды магчымы толькі адзін з варыянтаў…

**– Лявон Пятровіч, з юбілеем вас! Жадаю ўсяго самага лепшага, але самае галоўнае – каб здароўе было!**

– Тут ужо як Бог дасць. Я лічу: што мог, ужо зрабіў. А як далей будзе – паглядзім!..

**Марына КОКТЫШ.**

ПАМЯЦЬ

# Выйшаў з народа і пісаў пра яго



Сёння, 2 сакавіка, спаўняецца сорак дзён, як пайшоў у іншы свет публіцыст, пісьменнік, грамадскі дзеяч **Васіль Цімафеевіч Якавенка** – асоба шырокага інтэлектуальнага маштабу, самадастаткова, самаахвярны, стараннік і нястомны падзвіжнік, гарачы патрыёт Беларусі. Яго вылучалі багаты жыццёвы вопыт, сумленнасць, прынцыповасць, вялікія арганізатарскія здольнасці. Ён быў дапытлівым, усюдысным чалавекам, якому да ўсяго была справа.

Маючы дзве адукацыі – геолага і журналіста, ён добра ведаў прыроду Беларусі і псіхалогію беларусаў. Заўсёды і своечасова адгукаўся на актуальныя пытанні і праблемы Радзімы і яе народа. Гэта з яго ініцыятывы былі прыпынены бяздумныя практычныя планы далейшага асушэння Палесся, спрамлення рэчышча Прыпяці. Гэта ім пасля Чарнобыльскай катастрофы былі створаны "Сацыяльна-экалагічны саюз "Чарнобыль", заснавана газета "Набат", арганізавана аздараўленне дзяцей дома і за мяжой.

Ён стварыў шэраг актуальных публіцыстычных кніг па ўсіх напрамках і праблемах беларускага жыцця ("Пакуль сонца ў зеніце", "Другой зямлі не будзе", "Крушэнне над ростанню", "Прывіды Шанхая над Свіслачу", "Нечывелле" і інш.). А яго мастацкі раман-трылогія "Пакутны век" займае надзвычай годнае месца сярод беларускіх твораў, у якіх адлюстроўваецца гісторыя нашага народа. Упэўнены, не меншую цікавасць выкліча і яго апошні раман "Абярэг", які выйшаў у свет незадоўга да смерці аўтара.

Роднымі, блізкім, аднадумцам, прыхільнікам таленту В.Ц.Якавенкі цяжка змірыцца з нашай агульнай нацыянальнай стратай.

**Яўген ГУЧОК.**

ПРЕДЛОЖЕНИЕ

# Пенсионное законодательство – на пересмотр!

Хочу поделиться мыслями о нашем пенсионном законодательстве. Оно, считаю, далеко от совершенства. Не прослеживается баланс интересов государства и граждан. Нет побудительного мотива к труду всех и каждого.

В сложившейся системе многие годы главным показателем для начисления пенсий был и остается так называемый индивидуальный коэффициент, который рассчитывается как отношение заработной платы работника за последние 24 года к средней заработной плате рабочих и служащих по стране. Понятно, они, эти коэффициенты, отличаются друг от друга в разы, а, следовательно, и размеры пенсий. Далеко не всегда тот, кто имел на работе хорошие деньги, принес государству больше пользы, чем тот, кто трудился не хуже, но получал гораздо меньше. Не случайно же говорят, что есть «теплые места», а есть такие, где человек вкалывает от зари до зари, а имеет мизерную зарплату.

На мой взгляд, для начисления пенсии главным критерием должен быть трудовой стаж, минимум которого определяется законодательством. К примеру, установить минимальный трудовой стаж для мужчин 35 лет, для женщин 30. Четко определить, что включается в трудовой стаж (служба в армии, учеба, время декретного отпуска и др.).

При назначении пенсий следует учитывать коэффициент трудового участия (КТУ), который должен рассчитываться как отношение трудового стажа работника к установленному нормативу. За каждый год, проработанный сверх установленного норматива, предлагаю начислять надбавки в размере 0,5 процента от начисленной пенсии. Это будет побудительным мотивом к дальнейшей трудовой деятельности. Начислять надбавки советую два раза в год (на 1 января и на 1 июля).

Почему предлагаю такой трудовой стаж? Порассуждаем более детально. Мужчина, отработав 35 лет, получает право на пенсию по достижении определенного возраста и может прекратить трудиться. И что делать дальше? Томиться от безделья или продолжать работать? Он продолжает работать и увеличивает трудовой стаж для надбавки к пенсии.

Пример. Гражданин пошел работать в 18 лет. При трудовом стаже в 35 лет его возраст будет равен всего лишь 53 годам. А пенсию он сможет получить, когда ему стукнет, скажем, 63. Эти десять лет, умноженные на коэффициент 0,5 процента, и будут основанием для повышения пенсии.

Многие могут поставить вопрос: почему у нас возраст выхода на пенсию не увязывается с продолжительностью жизни? Я считаю, что здесь нет проблемы. Низкая продолжительность жизни не связана непосредственно с трудом, а скорее – наоборот. Она зависит от многих причин (природные условия, наследственность, наркомания, алкоголизм, курение и др.). Как кто-то сказал, человек без труда – что машина без эксплуатации, детали которой время от времени покрываются коррозией.

Предлагаю взглянуть на пенсионное законодательство с такой стороны. Сколько у нас семей, когда женщина, рожая одного ребенка за другим, занимаясь домашним хозяйством, не имеет возможности пойти на работу, а значит, к достижению пенсионного возраста иметь соответствующий трудовой стаж. Умирает муж, а у нее нет средств к существованию. Справедливо? Нет, не справедливо. Я считаю, что в таких случаях женщинам нужно назначать пенсию в размере 50 процентов от пенсии умершего супруга. И это будет благородно со стороны государства.

Есть еще пенсии по инвалидности. Они назначаются инвалидам соответствующих групп и инвалидам с детства. Размер таких пенсий должен быть не только не ниже бюджета прожиточного минимума, но, главное – не унижать человеческое достоинство.

Пенсии госслужащим. На данный момент их размер в 1,5–2 раза выше средней пенсии по возрасту и даже выше средней заработной платы по стране. Разве это справедливо?

И кто такие госслужащие? Здесь масса вопросов. Чиновник, перекладывающий бумажки со стола на стол, не должен претендовать на какие-то особые поощрения. На мой взгляд, если даже и оставить такие высокие пенсии, то только для первых лиц высших государственных инстанций и их заместителей.

О надбавках к пенсиям лицам, достигшим 75 и 80 лет. Они предусмотрены нынешним законодательством и как будто действуют. Но размеры их, прямо скажу, оскорбительные. Мне 81 год. Недавно получил пенсию за февраль и сравнил ее с январской. Сделана надбавка, и какая вы думаете – она составила аж… 57 копеек. Кому нужны такие надбавки? Они лишь огорчают, унижают и оскорбляют пенсионеров, а многочисленный отряд работников социальной защиты вынужден при этом заниматься пустым делом.

**Л.И.СМЫЧЕК, пенсионер.**
*Минск.*

ЕСТЬ ВОПРОС!

# Кто его туда послал?

*Уважаемая редакция!*

*Может быть, мои вопросы неубедительные. Или неудобные. Но все равно они меня очень интересуют.*

*Вот недавно погиб российский летчик, оставил жену вдовой, а дочь сиротой. Кто его туда послал и зачем? Чьи интересы он защищал, заплатив своей жизнью?*

*Прокомментируйте, пожалуйста, этот случай.*

**В.Степанищев, житель Витебска.**

Уважаемый В.Степанищев!

За последнее время в России было много авиакатастроф, в том числе и гражданских. Но вы, вероятно, имеете в виду нашумевшую гибель в Сирии майора Романа Филиппова, который, катапультировавшись, подорвал себя гранатой в ходе неравного боя с теми, кто воюет против Асада.

Послал его, Филиппова, как и многих других российских военнослужащих, верховный главнокомандующий российской армией, президент Российской Федерации Владимир Путин. Формально – потому что Россия решила таким образом прийти на помощь народу Сирии и победить Исламское государство – террористическую организацию, пытающуюся дестабилизировать ситуацию в мусульманском мире (а в России, как мы знаем, много мусульман, поэтому, выходит, ИГ угрожает и ей). Неформально – международная коалиция во главе с США, сражающаяся с ИГ на территории Сирии, поддерживает сирийскую оппозицию, которая также воюет с президентом Сирии Башаром Асадом. Фактически майор Филиппов погиб за Башара Асада, которого России важно удержать во главе Сирии, чтобы проводить согласованную политику по ценам на нефть. То есть вдова и дочь оплатили гибелью мужа и отца интересы российских нефтяных олигархов. И таких смертей, к сожалению, может быть еще немало.

СПАДЧЫНА

# Закопвайце скарбы – для нашчадкаў!



Першы свой манетны скарб я не выкапаў, а закапаў. Вось як гэта адбылося. Нарадзіўся я ў студзені 1937 года. А летам 1938-га ў нашай вёсцы Навасёлкі адбыўся пажар. Загарэлася і наша хата. У тым пажары ледзь не згарэў і я, бо спаў у калысцы. Тата быў у мястэчку Рось на працы, а мама – у гародзе ля рэчкі. Яна, убачыўшы пажар, прыбегла і паспела выхапіць мяне з хаты ў адной пялюшцы. Адразу пасля гэтага абрынуўся дах. Калі з Росі прыбег тата, на месцы хаты дагаралі галавешкі. Так мы засталіся без страхі над галавой, без нічога, амаль голы на вуліцы.

Адбудоўваца на старым месцы ў вёсцы тата не захацеў, дый не меў магчымасці. Ён збіў з дошак-гарбылёў будан на сваёй палосцы зямлі каля Княжай Гары, дзе мы потым і жылі як на хутары (за кіламетр ад вёскі).

Пакуль была цёплая восень, я гуляў у пяску каля будана. Прыйшоў аднойчы з работы тата і пахваліўся маме, што на працы яму далі пазычку – 10 злотых. Грошы невялікія – адна срэбная манета. Яна мяне, малога, зацікавіла, і я стаў патрабаваць: "Дай!". Мама запярэчыла: "Грошы – не цацка". Але тата падаў мне тую манету: "Хай пагуляе".

Пакуль бацькі планавалі, як найлепей патрацiць тыя злотыя, я ціхенька выслізнуў на вуліцу. Неўзабаве тата з мамай спахапіліся: "Дзе грошы?!" Я вадзіў іх па падворку і малаўцямна паказваў: там… там… там…

Так мае безграшовыя бацькі засталіся яшчэ і ў даўгу.

На наступны год тата ўладкаваўся працаваць на цэментны завод. А калі ў верасні прыйшлі бальшавікі, ён атрымаў пад жытло былую трупярню (морг) каля заводскай бальніцы. Восенню мы туды пераехалі.

Прайшла Другая сусветная вайна – з фашысцкімі зверствамі і дзікай партызаншчынай. Мае бацькі ўспомнілі пра сваю зямлю каля Княжай Гары, якую ўсе чатыры гады не апрацоўвалі. Пасадзілі там палоску бульбы. Прыйшоў час капання. Тата працаваў на заводзе, а мама – з мяшэчкам і гачкай – кожны дзень амаль за тры кіламетры хадзіла капаць сваю бульбу. А я ж яшчэ трэба было прынесці дадому…

Аднойчы мама прыйшла змучаная, але вясёлая і кажа тату: "Знайшлася сёння твая пазычка". І падае яму срэбную польскую манету – 10 злотых 1935 года выпуску.

А ўва мне недзе ў гэты час ужо нараджаўся калекцыянер, я пачынаў збіраць грошы. І тая горкая сямейная рэліквія трапіла ў маю калекцыю. Каб не эблытаць манету з іншымі дa яе падобнымі, я пазней прыпаяў да яе кольца-вушка ад нейкага аўстра-венгерскага ордэна.

Так манета і "гадуецца" са мною разам – яна срэбная, і я ўжо срэбны. Праўда, манета на два гады старэйшая за мяне, хоць, як жартуюць мае дзеці, выглядае лепей.

Дзіўная з'ява: усе толькі шукаюць і выкопваюць скарбы, але ніхто не хоча іх закопваць. Так скарбы хутка могуць скончыцца.

Шаноўнае спадарства, закопвайце скарбы, каб і нашым нашчадкам было што знаходзіць!

**Міхась ВЕРАЦІЛА.**
*п.Краснасельскі Ваўкавыскага раёна.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

# Беларусь – шматнацыянальная краіна



У рэдакцыю патэлефанаваў сталы чытач "Народнай Волі" Алесь Гурскі. Падзяліўшыся меркаваннямі наконт таго, як газета асвятляе злабадзённыя пытанні, ён сказаў:

– Днямі паспрачаўся з суседам, які катэгарычна сцвярджае, што ў Беларусі пражываюць прадстаўнікі амаль 140 нацыянальнасцяў. Я лічу, што ён памыляецца: лічба значна меншая. Ці не магла б рэдакцыя нас рассудзіць?

Шаноўны наш сябра! Можаце больш не спрачацца са сваім суседам. Ён мае рацыю: у Беларусі сапраўды пражываюць прадстаўнікі амаль 140 нацыянальнасцяў. Пра гэта сведчаць вынікі аднаго з апошніх перапісаў насельніцтва, а таксама звесткі, прыведзеныя ў дакладзе Беларусі, які 1 снежня мінулага года быў прадстаўлены ў Жэневе падчас 94-й сесіі Камітэта па ліквідацыі расавай дыскрымінацыі.

**Кацярына ЛІПСКАЯ.**

ОСОБЫЙ ВЗГЛЯД

# Главный человек на планете Земля – земледелец

Цивилизованное человечество далеко ушло от своих первоначальных корней и не задумывается о том, что единственный источник поступления возобновляемой энергии на планете Земля – это солнце. В то же время уловить и зафиксировать солнечную энергию на суше способны, за очень небольшим исключением, только зеленые листья. На морях и океанах эту функцию выполняют водоросли и некоторые другие организмы. Там своя цепочка превращения органического вещества, которая в виде морепродуктов доходит до человека. Но это в десятки раз меньше того, что мы получаем на суше. Поэтому сегодня мы поговорим о зеленых растениях – источниках жизни на Земле.

Биологи, агрономы, нынешние и бывшие ученики школ знают про фотосинтез. Это волшебство превращения доходящей до земли энергии солнца в глюкозу может происходить только в зеленом листе. Дальше – длинная и разветвленная цепочка превращений в сложные углеводы, белки, жиры и т.д. Растения служат кормом для животных, а человек, венец природы, потребляет и то, и другое. Не будет зеленых растений – жизнь на Земле прекратится. Мы об этом не задумываемся, но получается так, что крестьянин, земледелец, агроном являются главными действующими лицами на Земле. От их успешного труда в большой степени зависит величина полученной от солнца и зафиксированной первичной энергии, которая пойдет дальше по многочисленным ручейкам. Труд жителей городов, в том числе и столицы, является вспомогательным. Одни продукты их труда, такие как тракторы, автомобили, сельхозмашины, удобрения, синтетическая пленка и прочее, напрямую используются земледельцем. Другие – легковые автомобили, телевизоры, одежда, обувь, стройматериалы – служат для удовлетворения различных жизненных потребностей этого же труженика села и города, конечно, тоже. Все, что делает горожанин, с фундаментальной, материальной точки зрения является второстепенным. Да, красиво одеваться, жить в комфортабельной квартире, заниматься искусством очень приятно, но в основе жизни лежат дыхание и питание. Поэтому главный труд на Земле – это труд земледельца, агронома. Их надо поставить на такую высоту, на которой они никогда не были. Они самые главные.

Как же общество относится к своим кормильцам? В США, например, фермеры по престижности стоят на втором месте после адвокатов. В европейских странах фермерский труд также пользуется уважением. Правда, для всех стран справедлива известная аксиома: работая на земле, голодным не будешь, но большого богатства не соберешь. Среди миллиардеров фермеров не замечено.

А каково положение работников полей в нашей стране? К сожалению, труд тракториста, агронома у нас пока что не считается престижным. Их зарплата весьма скромная, хотя в последние годы имеется тенденция роста. Проблему представляет ненормированный рабочий день в весенне-летне-осенний период. Такое положение не способствует закреплению молодых агрономов на селе. В ряде передовых хозяйств идут навстречу молодежи и предоставляют хотя бы один выходной в 1–2 недели.

Следует отметить, что наша растениеводческая отрасль достигла больших успехов. Я вспоминаю данные, которые, будучи студентом, в 1970 году брал для курсового проекта в своем колхозе. Средняя урожайность зерновых была 7–10 ц/га. Сейчас в Беларуси собирают по 40–50, передовые хозяйства – и по 70–80 ц/га. За счет чего такой рост? Конечно, механизация, химизация сыграли важную роль, но главным все же является высококвалифицированный труд специалистов, и в первую очередь агрономов. Получать сверхвысокие урожаи – это уже не просто труд, а искусство, наука. Следует рассматривать растение как сверхсложное высокотехнологичное средство производства, и снабжать его всем необходимым надо в полном объеме и в нужные сроки. А также защищать от болезней, вредителей и сорняков. Лучшие агрономы, а таких у нас много, справляются с такой задачей в полной мере. Конечно, они заслуживают большого уважения. Это несправедливо, что какой-то клерк в банке или личный водитель какого-нибудь «шефа» в городе получает больше, чем главный кормилец человечества.

Руководитель сельхозпредприятия может ответить: рад бы заплатить, но где взять деньги? Это очень важный и сложный вопрос. Очень многие хозяйства нерентабельные или низкорентабельные. Вынуждены брать кредиты под большие проценты, что еще больше тянет ко дну. Многие перерабатывающие предприятия, крупнейшие торговые сети, особенно монополист «Евроопт», платят за сельхозпродукцию необоснованно низкие цены, иногда ниже себестоимости. Покупают у производителя картофель, морковь, капусту, свеклу по 20–30 копеек, а продают по 50–70. Вот откуда у них сверхприбыли на шикарные подарки.

Почему создалось такое положение и как из него выйти? Мнения на этот счет разные, у каждого свое. По-моему, неправильно, что государство регулярно, из года в год «помогает» самым слабым, списывает их долги. Как сказал однажды президент, деньги уходят, как вода в песок. Такая «помощь» способствует девальвации рубля. Лучше, может быть, эти деньги направить на поддержание цен. Так что же делать?

В сельском хозяйстве назрела необходимость серьезных реформ. Успешные хозяйства пусть продолжают работать в нынешнем виде. Начать надо с систематически убыточных. Во всем мире, в том числе и в Европе с ее передовым сельским хозяйством, нет колхозов или СПК в том виде, в каком они существуют у нас. Эта форма хозяйствования себя изжила. У всех работников СПК, в том числе и у руководителей, нет чувства хозяина. Они в полной мере не распоряжаются, не являются хозяевами земли, средств производства и полученной продукции. Председателей фактически не избирают члены кооператива, их назначают сверху. Поэтому пора вернуть отнятую когда-то землю и прочее тем, кто на ней работает. В нашей стране много примеров успешной работы белорусских фермеров. Есть желающие стать хозяевами, работать на земле. Наши вузы и колледжи выпустили тысячи специалистов. Надо только изменить отношение к фермерам, оказывать им всестороннюю помощь, особенно на первых этапах. На это потребуется намного меньше средств, чем казна ежегодно тратит на СПК в каждую посевную и уборочную. Часть убыточных хозяйств можно продать своим и зарубежным бизнесменам. Когда-то в России императрица Екатерина давала в пользование землю немцам и голландцам. Результат был весьма положительным. Они ведь придут с новыми технологиями и современными способами хозяйствования.

Я высказал свое мнение. У кого-то может быть иной взгляд. Приводите свои аргументы. Одна голова хорошо, а две лучше. Коллективно выработанное решение имеет меньшую вероятность быть ошибочным.

**Василий МИХАЛЬЧИК, доцент, кандидат сельскохозяйственных наук.**
*Гродно.*

